ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ
Кніганоша
№ 23
снежань, 2013
ЗАСНАВАЛЬНІКІ: ГА"САЮЗ БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ", МГА"ЗБС"БАЦЬКАЎШЧЫНА"

■ АЎТОГРАФ

## Валеры ДУБОЎСКІ:

# «Галоўнае ў жыцці не быць, а збыцца...»




**– Шаноўны Валеры Леанідавіч, нядаўна свет пабачыла Вашая кніга «На пачатку маўчання». У ёй ёсць верш з такімі радкамі «…Столькі слоў, // І няма паэзіі». А што Вы лічыце сапраўднай паэзіяй, якую ролю яна выконвае ў Вашым жыцці?**

– І ў прыгожым слове, і ў прыгожым па форме вершы можа не быць паэзіі. Адбываецца гэта, калі няма ў іх душы, калі творца насамрэч не творца, а штукар. Яго стыль – кідкі, правакацыйны сцёб, каб заўважылі… Успомнім: «паэзія» паходзіць ад грэцкага слова «творчасць». А некалі І. Гердэр трапна і назаўсёды вызначыў, што паэзія ёсць «музыка душы».

Спрэчкі пра паэзію, яе стан цягнуцца ад старажытнасці. Развагі пра душу, пра тое, ці ёсць яна і што гэта такое, калі не мітусня атамаў, – ад Платона, ад Цыцэрона. Абвінавачванні ў мадэрнізме – таксама адтуль, ад часоў Валерыя Катула, сучасніка Цыцэрона, Цэзара (апошняе стагоддзе да новай эры). Менавіта рымскі дыктатар кпіў з Катула за тое, што ён на вякі запляміў яго імя ў сваіх вершыках. Ды й сам паэт свае творы лічыў за пусцяковіну, забаўкі. Праз многія стагоддзі ягоныя «забаўкі» зрабіліся канонам, а ў сусветнай літаратуры паклалі пачатак новаму жанру – лірычнай паэзіі.

Дарэчы, Валеры Катул – з «неатэрыкаў», што ў перакладзе на сучасную мову – з мадэрністаў.

У паэзіі ўсё ўжо некалі было. Не было ў мінуласці толькі нас, нашых пачуццяў, нашай музыкі душы. Быць паэтам – мець душу, быць творцам з не абы-якім чалавечым досведам.

На жаль, праявы сённяшняй цывілізацыі палохаюць падменай сапраўдных чалавечых каштоўнасцей, пачуццяў штучнымі элементамі глабальнай матрыцы – прыгожа, ярка, спакусліва ўкладзенай у галовы праз навушнікі, маніторы, тэлеэкраны… Там няма душы. Чалавек губляе адчуванне рэальнасці, не заўважае прыгажосці сапраўднага жыцця, яго боляў і радасцей. Ён і сябе не адчувае, не шукае сваю самасць, не рэалізуе ў сабе боскі дар, сваё прызначэнне. Галоўнае ж у жыцці не быць, а збыцца.

Чалавек ёсць чалавекам, калі ён творца, і не толькі ў паэзіі.

**– Вы пачалі пісаць вершы яшчэ ў школе, але потым замаўчалі, і гэтае маўчанне цягнулася каля 20 гадоў (з 1980-х да 2003 года). І вярнуцца да вершаў Вас падштурхнуў дзядзька Рыгор. Сярод творцаў (вашага пакалення), што «замаўкалі», але потым зноў вярталіся ў літаратуру, можна згадаць, напрыклад, Леаніда Галубовіча… Чым было выклікана Вашае маўчанне?**

– Як і ў Леаніда Галубовіча, выдатнага і ўдумлівага літаратурнага крытыка, у любога, хто раптам «замаўкае», свае падставы.

У мяне, насамрэч, «маўчанняў» было некалькі. У школьныя, шасцідзесятыя гады, падчас аршанскага жыцця, кінуў творчыя спробы пасля раптоўнай смерці бацькі. Чатырнаццацігадовы, я застаўся ў сям'і старэйшым з мужчын. Паэтычны рамантызм дымам пайшоў. Галоўным стаў пабытовы клопат пра выжыванне. Маці, пенсіянерка па інваліднасці, згубіўшы здароўе ў партызанскім атрадзе, стала праца-

*(Працяг на стар. 7)* 

**Даведка «Кніганошы»:**

**Валеры Дубоўскі – літаратар, выдавец. Аўтар кнігі паэзіі «На пачатку маўчання» (2013). Нарадзіўся ў 1948 годзе ў вёсцы Хацькова на Шклоўшчыне. Сябар ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў». Жыве ў Мінску.**




**Новы замак: літаратурны альманах. Гродна. MMXIII. № 2. Укл. С. Астравец. – Мінск: Кнігазбор, 2013. – 256 с.**

У другім выпуску літаратурнага альманаха «Новы Замак» Гродзенскага абласнога аддзялення грамадскага аб'яднання «Саюз беларускіх пісьменнікаў» у раздзеле «Са спадчыны» публікуецца драматычная паэма Міколы Арочкі «Каранацыя Міндоўга» (пры жыцці аўтара друкаваўся толькі ўрывак). У «сучасных мемуарах» Мечыслава Курыловіча распавядаецца, між іншым, пра альбарутэнаў. У «замежным дзённіку» Сяргея Астраўца – уражанні ад Готланда, Мальёркі і Локрума – невялікага вострава ў Адрыятычным моры побач з Дуброўнікам. Віктар Сазонаў прадстаўляе нізку апавяданняў, якія дагэтуль выходзілі толькі ў польскім перакладзе асобнай кнігай. Змешчаны пераклад паэмы, што належыць пяру былога Папы Рымскага Яна Паўла ІІ. Друкуюцца ўспаміны пра гродзенскіх паэтаў: Юрыя Гуменюка і Эдуарда Мазько. У раздзеле «Хроніка» чытач знойдзе рэпартаж пра першы вулічны паэтычны слэм «Кахай па-гарадзенску!»




**Гарэцкі Радзім. Жыццёвы меланж: публіцыстычныя артыкулы, лірычныя замалёўкі, мініяцюры, эсэ. – Мінск: Кнігазбор, 2013. – 648 с.**

Акадэмік Радзім Гарэцкі, навуковец у галіне геалагічных навук і грамадскі дзеяч, прапануе для шырокага кола чытачоў напісаную ў апошнія дваццаць гадоў публіцыстыку і розныя жанры лірычнай прозы, якія сумесна складаюць своеасаблівую змешаную жанравую форму – «жыццёвы меланж». Гэтыя творы ўзніклі ў выніку думак, уражанняў пачуццяў ад шматлікіх падзеяў у краіне і свеце, юбілеяў і страт сяброў і блізкіх людзей (у тым ліку вядомых дзеячаў літаратуры, культуры, навукі), успамінаў пра жыццё і дзейнасць бацькі і дзядзькі – братоў Гаўрылы і Максіма Гарэцкіх, родных, некаторых момантаў асабістага жыцця і інш.




**Дубянецкі Эдуард. Покліч самотнага неба: вершы, паэма. – Мінск: Кнігазбор, 2013. – 204 с.**

Вершы Эдуарда Дубянецкага вызначаюцца пачуццёвасцю, фантазійнасцю і яснасцю стылю, імкненнем да зразумення метафізічных праблемаў быцця. У новай кнізе змяшчаюцца творы лірычнага, філасофскага і смехавога гучання, узніклыя за два апошнія дзесяцігоддзі. Чытач мае магчымасць пазнаёміцца з беспрэцэдэнтным россыпам класічных і аўтарскіх жанравых формаў.

**Гуцаў Андрэй. Кніга зданяў: апавяданні, навелы, эсэ. – Мінск: Кнігазбор, 2013. – 148 с.**

На старонках гэтай кнігі чытач знойдзе містыку і дэтэктыў, фантастычныя і груба рэалістычныя сюжэты, гісторыю і сучаснасць, авантуру і строга навуковы досвед; але больш за ўсё – дух загадкі: дух загадкі чалавечага існавання, якую, здаецца, яшчэ адна секунда, яшчэ вось-вось – і ўжо дакладна разгадаеш! У разматых жанрах кароткай прозы аўтар звяртаецца да адвечных пытанняў жыцця і смерці. І нестандартнасць гэтага выдання мае на ўвазе нестандартнасць падыходу да іх вырашэння.







**Каўрус Алесь. Як яно было: Згадкі «нацыяналіста». – Мінск: Кнігазбор, 2013. – 84 с.**

Аўтар, мовазнаўца, вяртаецца ўспамінамі да 1974 года, калі ў АН БССР групу супрацоўнікаў абвінавацілі ледзь не ў антыдзяржаўнай дзейнасці. Як дадатак да расповеду пра нашумелую «справу» змешчана некалькі яго мовазнаўчых публікацыяў. Каб чытач сам убачыў, ці было што ў іх «крамольнага».



**Гілевіч Ніл. Збор твораў у 23 тамах. Том 7, 8: паэзія. Перастварэнні з балгарскай. – Мінск, 2013. – 392, 408 с.**

«За сорак гадоў напружанай працы (1956–1996) я здолеў досыць грунтоўна асвоіць агромністы мацярык балгарскай класічнай і сучаснай паэзіі – не проста як чытач, а як перастваральнік яе на беларускую мову, каб маглі пачытаць і мае суайчыннікі. У двух тамах гэтага Збору твораў прадстаўлены 175 балгарскіх паэтаў, – фактычна поўнасцю два стагоддзі паэзіі братняй нам славянскай краіны: ад пачатку XIX да канца XX стагоддзя…» (З пасляслоўя).



**Гілевіч Ніл. Збор твораў у 23 тамах. Том 9: паэзія. Перастварэнні з рускай, украінскай, сербскай, харвацкай, македонскай, польскай, славацкай, чэшскай, лужыцкай. – Мінск, 2013. – 528 с.**

У 9-м томе Збору твораў змешчаны паэтычныя перастварэнні з усіх (апрача балгарскай) славянскіх моў, выкананыя аўтарам больш чым за сорак гадоў: ад пачатку 1950-х да сярэдзіны 1990-х. У новым стагоддзі быў пераствораны толькі адзін верш – «Запісы на лісточках дрэў» славенца Івана Добніка (2008). Першы пераствораны і абнародаваны мною верш – «Лена» Уладзіміра Маякоўскага (1952, красавік); гэты творчы выступ у новым жанры быў прыўрочаны да 40-годдзя расстрэлу рабочых залатых капальняў на рацэ Лене ў Сібіры і здзейснены па просьбе рэдакцыі факультэцкай насценнай газеты «Слова філолага». Так пачалося тое, што стала вялікім творчым лёсам, стала штодзённай бездахланнай працай, такой жа золаташукальніцкай, як і праца над сваім уласным радком (З каментарыяў).



**Мірановіч Міхась. Жартачкі: гумар і сатыра: у 3-х кн. Кн. 1. – Мінск: Медысонт, 2013. – 420 с.**

«Жартачкі» – другі зборнік вершаваных карацелек вядомага віцебскага паэта-гумарыста Міхася Мірановіча. Першы – «Міранізмы» – выйшаў у 2002 годзе і быў з ухвалай прыняты крытыкай і чытачамі.



**Бацкель Аляксандр І. Мімікрыя. Даследаванне чатырох стыхій на прыкладзе чатырох летуценнікаў: раман. – Мінск: Ковчег, 2013. – 194 с.**

Кніга Аляксандра І. Бацкеля – раман-мімікрыя. Раман, які хоча здавацца раманам. Кніга пра стыхіі і пра чатырох летуценнікаў. Раман пра кніганошаў, пра каханне, пра літаратуру, пра магічнасць нашага жыцця. Пра Мінск і яго жыхароў. Пра свабоду і адчай. Пра адзіноту, хваробы, агонь, пітво. «Мімікрыя» – даніна творцам, якія паўплывалі на стварэнне светапогляду аўтара: Берталучы, Віян, Набокаў, Кафка, японская манга, літаратурныя эксперыменты Бэроўза і Томпсана. Гэтая кніга зазірае ў свет тых, хто жыве па-за грамадствам, соцыумам і не імкнецца да яго далучацца, а хутчэй наадварот, пратэстуе супраць усяго будзённага, усяго масавага. Героі самі ствараюць сваё атачэнне, самі робяць яго такім, якім жадаюць бачыць, будуюць міфы і казкі, містыку і вусціш уласнага існавання, перамешваючы жыццё з літаратураю і гульнямі вакол словаў.



**Сазонаў Віктар. «Сандалі мітрапалітыка, або маленькія гісторыі з вялікай палітыкі»: навелы. – Гродна: Гарадзенская бібліятэка, 2012. – 164 с.**

Аўтар кажа, што кніжка – зборнік вясёлых навэл пра тыя недарэчнасці, якія напаткалі герояў аповедаў у раннім палітычным змаганні. Кніга распавядае пра рэальныя гарадзенскія гісторыі ў творчым, смачным пераказе аўтара.



**Сазонаў Віктар. «Паэзія прозы»: проза. – Гродна: Гарадзенская бібліятэка, 2013. – 264 с.**

«Зборнік пачынаецца кніжкай аповедаў «Дзедавы мудрасці». Гэта погляд аўтара ў нядаўнюю мінуўшчыну, дзе жыццёвы досвед і народная мудрасць перадаваліся вусна, ад спрактыкаваных дзядоў да малых унукаў. Гэтыя мудрыя парады, як сістэма абароны і код самазахавання, лагічна пераплываюць у рэчаіснасць сённяшняга дня, якую чытач сустрэне ў другой частцы, на старонках пяці апавяданняў. Апавяданняў, якія ўздымаюць моц беларускага духу тых, хто і сёння не выракліся старых мудрасцяў і запаветаў, жывуць і дзейнічаюць у імя Беларусі», – піша ў прадмове да кнігі Уладзімір Хільмановіч.



**Аўсяннікава Тамара. Стромкая галінка: вершы. – Магілёў, 2013. – 52 с.**

У кнігу ўвайшлі вершы лірычныя, філасофскага зместу, з адценнем іроніі. Аўтара хвалююць сны і ява. Яна зберагае ў памяці дарагія сэрцу імёны, звяртаецца да такіх фальклорных жанраў, як замова, галашэнне і прыпеўкі.



**Гумянюк Юры. «Назаві мяне геніем»: вершы. – Гродна: Гарадзенская бібліятэка, 2013. – 216 с.**

У кнізе сабраныя ўсе вядомыя на гэты момант вершы гарадзенскага паэта Юры Гуменюка (1969–2013). «…Юры Гумянюк – адзін з самых яскравых прадстаўнікоў беларускага вербальнага мастацтва, вандроўнік па экзістэнцыйных лабірынтах свабоды, нонканфармізму і дэкадансу, добры дэміург, працяты наскрозь гарадзенскасцю», – піша Анатоль Брусевіч у прадмове да кнігі.



**Ліцвін Аркадзь. Прастрэлены талер. Кніга першая. – Гродна: ЮрСаПрынт, 2013. – 414 с.: іл.**

Галоўныя персанажы «Прастрэленага талера» – шляхта. Яна выконвала наканаваную гісторыяй ролю ў сваёй дзяржаве. Займалася дзяржаўнымі справамі: ваявала, стварала законы і судовую сістэму, ажыццяўляла самакіраванне тэрыторый, дыпламатычную і парламенцкую дзейнасць. Недасканалая, а больш тэндэцыйна высмеяная, форма палітычнай «залатой вольнасці», апроч адмоўных, выпрацоўвала звычаі, вартыя пашаны і сёння: дасягненне кампрамісаў, талерантнасць да іншых поглядаў. У гэтых умовах сфарміраваліся ўзоры шляхціца як асобы: пачуццё асабістай годнасці, пераканане роўнасці ўнутры саслоўя, значнасць роднай культуры. Увявіць жыццё гістарычных асобаў тых далёкіх часоў дапаможа гэтая кніга.



**Сонейка. Хрэстаматыя дзецям дашкольнага ўзросту. Уклад. Р. І. Шастак. Мастак А. А. Карповіч. – Мінск: Выдавец Уладзімір Сіўчыкаў, 2013. – 304 с.: іл.**

У гэтай чытанцы сабраныя песенькі і пацешкі, прыгаворкі і загадкі, прыказкі і прымаўкі, лічылкі і гульні, беларускія і рускія народныя казкі, а таксама найлепшыя творы беларускіх і рускіх пісьменнікаў. Фальклорныя пярліны пераказалі такія майстры слова як Якуб Колас, Уладзімір Сіўчыкаў, Уладзімір Ягоўдзік і Алесь Якімовіч, а сярод арыгінальных твораў – тэксты Рыгора Барадуліна, Дануты Бічэль-Загнетавай, Пятра Васючэнкі, Леаніда Дранько-Майсюка, Галіны Каржанеўскай, Вацлава Ластоўскага, Івана Муравейкі, Максіма Танка, Алеся Пісьмянкова, Андрэя Хадановіча, Станіслава Шушкевіча.

# «Міфалагічны падмурак...»

27 лістапада ў Нацыянальным гістарычным музеі Рэспублікі Беларусь адбылася прэзентацыя календара і ўрачыстае адкрыццё фотавыставы «Першапачатак», прымеркаванай да 80-годдзя ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў». Азнаёміцца з экспазіцыяй і павіншаваць найстарэйшую пісьменніцкую арганізацыю Беларусі з юбілеем прыйшлі літаратары, мастакі, грамадскія дзеячы, іншыя прадстаўнікі творчай інтэлігенцыі.

Вядучы імпрэзы, паэт Усевалад Сцебурака павітаў усіх прысутных і перадаў слова Барысу Пятровічу – празаіку, Старшыні СБП, галоўнаму рэдактару часопіса «Дзеяслоў»:

– Наступны год стане для ўсіх беларускіх пісьменнікаў і чытачоў юбілейным. У чэрвені 1934 года адбыўся І з'езд Саюза пісьменнікаў, і сённяшняя выстава, а таксама выхад календара «Першапачатак» распачынаюць святкаванне гэтай значнай падзеі. Як вядома, 23 красавіка 1932 года выйшла пастанова ЦК ВКПб, і цягам двух гадоў ішла падрыхтоўчая і арганізацыйная праца па стварэнні пісьменніцкай арганізацыі. Ля вытокаў нашага саюза стаялі класікі літаратуры Янка Купала, Якуб Колас, Міхась Лынькоў, Кузьма Чорны, Змітрок Бядуля, Пятрусь Броўка і дзясяткі іншых літаратараў.

За доўгую гісторыю арганізацыя мела розныя назвы: і Саюз пісьменнікаў БССР, і Саюз пісьменнікаў Беларусі, і Саюз беларускіх пісьменнікаў, але заўсёды ў яго ўваходзілі самыя лепшыя беларускія літаратары. Можна пералічаць сотні імёнаў, і нельга не згадаць Максіма Танка, Аркадзя Куляшова, Васіля Быкава, Міхася Стральцова, Алеся Адамовіча, Уладзіміра Караткевіча, якія ёсць гонарам беларускай літаратуры, чые творы складаюць залаты фонд нашага прыгожага пісьменства, уваходзяць у школьныя і ўніверсітэцкія падручнікі.

За гэты час 19 беларускіх пісьменнікаў атрымалі ганаровае званне Народных, больш за 100 – лаўрэаты дзяржаўных прэмій Беларусі, 10 сталі акадэмікамі НАН Беларусі, 60 – дактарамі і кандыдатамі навук, многія атрымалі пачэсныя званні ў галінах культуры і навукі, але не гэта, канечне, галоўнае.

Важна тое, што яны пакінулі па сабе творы, якія сёння перакладаюцца на розныя мовы свету. За апошнія гады на розныя замежныя мовы – англійскую, нямецкую, французскую, літоўскую, украінскую, рускую, польскую ды іншыя – перакладаліся творы і Васіля Быкава, і Уладзіміра Караткевіча, Уладзіміра Някляева, Святланы Алексіевіч. І не проста перакладаліся, але і ўдзельнічалі ў прэстыжных міжнародных прэміях. Сёлета Святлана Алексіевіч стала лаўрэатам прэміі нямецкіх кнігавыдаўцоў і французскіх медыя, летась атрымала ганаровую прэмію Angelus. Уладзімір Някляеў сёлета атрымаў прэмію Фінскага ПЭН-Цэнтра, а летась атрымаў шведскую прэмію імя Тухольскага, Уладзімір Арлоў стаў Еўрапейскм паэтам Свабоды. Цяжка пералічыць усе важкія падзеі з удзелам нашых творцаў. Сёння больш за 400 літаратараў у шэрагах ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў».


Ірына ХАДАРЭНКА.


Валеры ДУБОЎСКІ.

Напрыканцы свайго выступу Барыс Пятровіч падзякаваў усім тым, хто спрычыніўся да падрыхтоўкі і выдання календара – самім удзельнікам, аўтару ідэі Ірыне Хадарэнка, выдаўцу і фотамастаку Валерыю Дубоўскаму, усяму калектыву, які працаваў над праектам. А таксама партнёрам – газеце «Комсомольская правда в Беларуси» і кампаніі «Будзьма!», выдавецтву «Юніпак», Лагойскаму выканкаму, музеям народнай творчасці, дзе праходзілі здымкі календара. Асобная падзяка адрасаваная Нацыянальнаму гістарычнаму музею, у прыватнасці, яго дырэктару Алегу Рыжкову, за магчымасць правядзення фотавыставы.

Барыс Пятровіч перадаў у фонд Нацыянальнага гістарычнага музея асобнік календара «Першапачатак» з аўтографамі пісьменнікаў-удзельнікаў праекта.

Ірына Хадарэнка распавяла пра канцэпцыю праекта, які рэалізоўваўся цягам двух гадоў, пра яго міфалагічны падмурак, і выказала надзею, што ён будзе працягвацца.


Аксана ДАНІЛЬЧЫК.

– У назву «Першапачатак» укладзеная пераемнасць пакаленняў, даніна павагі нашым папярэднікам. У міфалагічных вобразах зашыфраваны код нацыі, таму яны абраныя невыпадкова. Здымкі праводзіліся ў звычайных умовах – у вясковай хаце, у лесе, у полі, каб максімальна наблізіцца да натуральнасці, да рэальнай беларускай зямлі, – патлумачыў выдавец, паэт і фотамастак Валеры Дубоўскі.

Народны паэт Беларусі Рыгор Барадулін не змог прысутнічаць на імпрэзе, але напісаў прывітальны экспромт:

«І рупіць мне, дамавіку, падаць наступніку руку», – ліст календара з фотаздымкам дзядзькі Рыгора ў вобразе хатніка і аўтографам быў перададзены ў фонды Нацыянальнага гістарычнага музея.

Творцы Генадзь Бураўкін і Анатоль Вярцінскі ў сваіх выступах звярнуліся да гісторыі Саюза беларускіх пісьменнікаў, да юбілею арганізацыі. Спадар Анатоль прачытаў верш памяці рэспрэсаваных у 1930-я гады літаратараў, згадаўшы трагічныя старонкі нашай гісторыі. Павіншаваў усіх сябраў СБП са святам Радзім Гарэцкі.

Падзяліліся сваімі ўражаннямі ад календара «Першапачатак» пісьменніцы Антаніна Хатэнка, Аксана Спрынчан, Аксана Данільчык. «Лесавік» Леанід Дранько-Майсюк і «лазнік» Міхась Скобла прачыталі ўласныя вершы і расказалі пра вобразы, якія яны ўвасаблялі ў календары. Выступіў таксама пісьменнік, літаратуразнаўца, першы намеснік Старшыні СБП Алесь Пашкевіч.

Кожны выступоўца атрымаў у падарунак каляндар, а таксама торбачку з сімволікай Саюза беларускіх пісьменнікаў. Музычную частку прэзентацыі забяспечыў фольк-гурт Alta Mente.

**Віка Трэнас,**
**фота Алены Казловай.**




**Гардзіенка Наталля. Рада БНР (1947–1970): Падзеі. Дакументы. Асобы. Наталля Гардзіенка, Лявон Юрэвіч. – Мінск: Кнігазбор, 2013. – 648 с. – (Бібліятэка Бацькаўшчыны; кн. 22).**

Кніга «Рада БНР (1947–1970): Падзеі. Дакументы. Асобы» (22-я ў серыі «Бібліятэка Бацькаўшчыны») прысвечана 110-м угодкам з дня нараджэння першага Прэзідэнта паваеннай Рады БНР Міколы Абрамчыка (1903–1970). Змест выдання складаюць матэрыялы, звязаныя з дзейнасцю арганізацыі: пратаколы, дакументы, ліставанне, бібліяграфія, хроніка, біяграфічныя нарысы асобных дзеячаў. У гістарычным нарысе зроблена спроба асэнсавання асноўных напрамкаў гісторыі Рады БНР першых паваенных дзесяцігоддзяў. Кніга ўяўляе сабой першую спробу рэпрэзентацыі матэрыялаў эміграцыйнай дзейнасці Рады БНР.




**Петрыкевіч Міхась. Народжаны вечнасць тварыць: краязнаўчыя артыкулы, успаміны, пісьмы. Уклад., прадм., камент. С. Чыгрына. – Мінск: Кнігазбор, 2013. – 200 с.**

У кнігу заснавальніка Дзятлаўскага гісторыка-краязнаўчага музея, заслужанага настаўніка Беларусі, краязнаўца Міхася Петрыкевіча (1913–1999) увайшлі артыкулы, напісаныя ў розны час, а таксама пісьмы да яго і ўспаміны людзей, якія з Міхасём Фёдаравічам сябравалі і ведалі яго пры жыцці.




**Сэрцу горкая далячынь. Укл., прадм. Галіны Скрыган. – Мінск: Кнігазбор, 2013. – 352 с.**

У кнізе змешчаныя дзённікі вядомага беларускага пісьменніка Яна Скрыгана, якія ён вёў да апошняга дня жыцця.

«Працуючы над упарадкаваннем бацькавых запісаў, я перш за ўсё бачу сваю місію ў тым, каб пакінуць гэты бясцэнны летапіс часу ў чытэльным выглядзе, «натарыяльна» завераным для нашчадкаў, а можа быць, і для будучых даследчыкаў-лінгвістаў, філолагаў, літаратуразнаўцаў», – піша ў прадмове ўкладальнік кнігі.




**Целеш Вячка. Адсюль наш род, тут мой прычал. – Мінск: Кнігазбор, 2013. – 220 с.**

Кніга напісана на аснове архіўных дакументаў, успамінаў краснасельцаў і самога аўтара. Пачынаючы з 1795 г., апісваецца гісторыя вёскі Краснае Сяло (Красная), пасёлка Краснасельскі і наваколля. Падаюцца звесткі пра кожную сям'ю краснасельскіх Целешаў: імёны, гады жыцця, радаводныя дрэвы, змешчана больш за 700 фотаздымкаў. Пазнаёміўшыся з гэтай кнігай, чытач зразумее, як гэта няпроста, але і ганарова – быць летапісцам свайго роду і свайго краю.




**На «панскіх» могілках Плябані. Уклад. В. Сямашка; аўт. прадм. В. Сямашка. – Мінск: Медысонт, 2013. – 140 с. – (Серыя «Гістарычныя могілкі Беларусі»).**

Кніга прысвечаная гістарычным «панскім» могілкам вёскі Плябань і з'яўляецца своеасаблівым даведнікам па гэтым некропалі. У кнізе адлюстраваная гісторыя вёскі і яе гістарычных пабудоваў, якія праз сваю лакальную спецыфіку існавання даюць уяўленне пра асноўныя гістарычныя падзеі ў гісторыі Беларусі XIX–XX стагоддзяў. Таксама кніга знаёміць чытача з гістарычнымі рыма-каталіцкімі «панскімі» могілкамі Плябані – спецыфічным культурным асяродкам мясцовасці. На тэрыторыі могілак захаваліся надгробкі, якія паходзяць ажно з XIX стагоддзя, іх рэшткі, а таксама магіла касінераў Каліноўскага, да 150-годдзя з моманту паўстання якога і прымеркаваная гэтая кніга. Выданне будзе карысным для гісторыкаў, краязнаўцаў, а таксама шырокага колу чытачоў.




**Пракаповіч Ігар. Назвы нашых вёсак. – Паставы, ТБМ імя Ф. Скарыны, 2013. – 100 с.**

Кніга ўяўляе сабой айканімічны слоўнік: у алфавітным парадку падаюцца варыянты сэнсавага значэння і паходжання 480 назваў населеных пунктаў Пастаўскага раёна. Гэта першае выданне па тапаніміі гарадскіх паселішчаў і весак паўночна-заходняга рэгіёна Беларусі.




**Лыч Леанід. Краязнаўства ў кантэксце сучаснага нацыянальна-культурнага жыцця Беларусі. – Мінск: Кнігазбор, 2013. – 44 с.**

Кніга прысвечаная раскрыццю сучаснага становішча краязнаўчага руху ў Рэспубліцы Беларусь, паказаны яго дасягненні ў даследаванні розных праблемаў, звязаных з гісторыяй, сучасным нацыянальна-культурным жыццём. Зусім свядома аўтар шмат увагі надаў моўнаму і тапанімічнаму аспектам краязнаўчых даследаванняў.




**Валахановіч Анатоль. Уладзіслаў Галубок: Першы народны артыст БССР. – Мінск: «Харвест», 2013. – 64 с.: малюнкі. – (Серыя «100 выдатных дзеячоў беларускай культуры»).**

Ігнат Уладзіслаў Галубок (1882–1937) – драматург, акцёр, рэжысёр, пісьменнік, паэт, мастак, дэкаратар, першы народны артыст БССР (1928). У 1921 годзе стварыў Вандроўны беларускі тэатр, з якім даваў спектаклі ва ўсіх кутках тагачаснай Беларусі. Гэтага надзвычай таленавітага чалавека забілі сталінскія каты, якія імкнуліся знішчыць нашу адметнасць, нашу мову, нашу нацыянальную культуру.




**Марціновіч Алесь. Ігнат Буйніцкі: З кагорты першапраходцаў. – Мінск: «Харвест», 2013. – 64 с.: малюнкі. – (Серыя «100 выдатных дзеячоў беларускай культуры»).**

Ігнат Буйніцкі (1861–1917) – заснавальнік, рэжысёр і акцёр першага беларускага прафесійнага тэатра. У 1910–1913 гг. гэты тэатр («Першая беларуская трупа Ігната Буйніцкага») шырока гастраляваў па Беларусі. У рэпертуар уваходзілі беларускія народныя песні і танцы, дэкламацыі твораў беларускіх літаратараў, п'есы беларускіх, польскіх і расійскіх драматургаў. У 1917 г. Буйніцкі быў адным з ініцыятараў стварэння «Першага беларускага таварыства драмы і камедыі».




**Тарас Анатолий. Краткий курс истории Беларуси. IX–XXI вв. – Минск: Харвест, 2013. – 544 с.: илл. – (Неизвестная история)**

Галоўная вартасць кнігі ў тым, што аўтар змог распавесці пра ўсе найважнейшыя падзеі, што адбываліся на тэрыторыі рассялення беларускага этнаса за 12 стагоддзяў. Яго аповед пачынаецца з узнікнення старажытных плямёнаў, а завяршаецца абвяшчэннем незалежнасці Беларусі. Пры гэтым аўтар аспрэчвае шматлікія міфы і памылкі, распаўсюджаныя як у масавай свядомасці, так і ў сучаснай гістарыяграфіі. Структура кнігі зручная для выкарыстання ў якасці схемы пры самастойным вывучэнні беларускай гісторыі. Кніга напісана простай, зразумелай мовай і, нягледзячы на багацце фактычных звестак, лёгка чытаецца.




**Усачев О. И. Кто, как и зачем убил Вильгельма Кубе. Под общ. ред. Д. А. Тараса. – Минск: Харвест, 2013. – 368 с.: илл. – (Неизвестная история).**

Аўтарам кнігі сабраны і дэталёва прааналізаваны шырокі фактычны матэрыял, звязаны з падрыхтоўкай і забойствам нацысцкага генкамісара Беларусі Вільгельма Кубэ. Прыведзеныя малавядомыя факты з гісторыі партызанскага руху, дзейнасці нямецкай акупацыйнай адміністрацыі і спецслужбаў. Адмысловая ўвага нададзена біяграфіям Вільгельма і Аніты Кубэ, Алены Мазанік, Карла Кляйнюнга і іншых удзельнікаў тых драматычных падзеяў. Утрымлівае вялікую колькасць спасылак на архіўныя дакументы і ўспаміны.

**Мірскі замак у кантэксце падзелаў Рэчы Паспалітай і вайны 1812 г.: мат-лы навук.-практ. канф. (г. п. Мір, 16 чэрв. 2012 г.). Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, Установа «Музей «Замкавы комплекс «Мір»; навук. рэд. В. М. Папко. – Мінск: Медысонт, 2013. – 170 с., іл.**




Зборнік змяшчае матэрыялы навукова-практычнай канферэнцыі, якая адбылася ў музеі «Замкавы комплекс «Мір» 16 чэрвеня 2012 г. Яна была прысвечана пытанням, звязаным з гісторыяй Мірскага замка ў кантэксце такіх важных гістарычных падзей на пераломе XVIII і XIX стагоддзяў як падзелы Рэчы Паспалітай і вайна 1812 г. паміж Расіяй і Францыяй. У зборнік таксама ўвайшлі даследаванні, звязаныя з гісторыяй мястэчка і ўладароў Мірскага замка.




**Тапанімія старажытнай Гародні (XII–XVIII стст.). – Гродна: Гарадзенская бібліятэка, 2013. – 192 с.**

Гэтая кніга – першая ў Беларусі праца, у якой зроблены аналіз эвалюцыі тапанімікону аднаго горада на храналагічным адрэзку XII–XVIII стст. Аўтар, доктар гістарычных навук Юры Гардзееў, разглядае пытанне паходжання ўласнага імя Гародні і ракі Нёман, усебакова аналізуе асобныя назвы гарадзенскіх вуліцаў і плошчаў, а таксама іншыя імёны ўнутрыгарадскіх аб'ектаў. У працы зроблена спроба аналізу каштоўнасных аспектаў эвалюцыі гарадзенскага урбананімікону. Кніга скіравана да тых, хто цікавіцца гісторыяй старажытнай Гародні.




**Сяргей Навумчык. Дзевяноста першы. (Бібліятэка Свабоды. XXI стагодзьдзе.) – Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2013. – 536 с.: іл.**

Кніга прысвечаная падзеям 1991 году, удзельнікам якіх давялося быць аўтару – масавым вулічным пратэстам, парламенцкай працы Апазіцыі БНФ, абвяшчэнню незалежнасці Беларусі і першым крокам у будаўніцтве новай дзяржавы.




**Лепін Рыгор. Чарнобыльская мазаіка. – Вільнюс: «VšĮ «Socialinių investicijų valdymo centras», 2013. – 266 с.**

Кніга адлюстроўвае факты, падзеі, успаміны і развагі, якія з'явіліся падчас працы ў чарнобыльскай зоне, размовы са сведкамі катастрофы і ўдзельнікамі ліквідацыі яе наступстваў. Будзе карысная любому чытачу, якога цікавіць інфармацыя пра падзеі ў чарнобыльскай зоне, што называецца, з першых вуснаў. Аўтар не прэтэндуе на ўсеахопнае апісанне чарнобыльскай эпапеі, распавядае толькі пра тое, з чым яму давялося сутыкнуцца асабіста.

Кнігі можна замовіць ці набыць па наступных адрасах:
**«Акадэмічная кніга»,** г. Мінск, пр-т Незалежнасці, 72; e-mail: akademkniga@tut.by, тэл.: +375 17 292 00 52, 292 46 52, 292 50 43
**«Кніжны салон»,** г. Мінск, вул. Калініна, 5; e-mail: stival.salon@gmail.com, тэл.: +375 17 385 60 89

# «Галоўнае ў жыцці не быць, а збыцца...»

(Пачатак на стар. 1)

ваць не магла, а яшчэ ж, акрамя мяне, трое меншых дзяцей…

Тыя ж матэрыяльныя цяжкасці падштурхнулі кінуць вучобу на філфаку БДУ і пайсці ў войска. Затым завочная вучоба на журналістыцы, вар'яцкі газетны рытм, гойсанне па палях, па фермах, пераезды з раёна ў раён, з вобласці ў вобласць. Вучоба, праца, малыя дзеці, адказныя пасады, сур'ёзныя грамадскія нагрузкі…

Другі раз пачаў пісаць пад уплывам Рыгора Семашкевіча, з якім былі ў добрых сяброўскіх адносінах. Пасля рэдактарскай пасады ў карэліцкай раённай газеце «Полымя» на Гродзеншчыне быў накіраваны на два гады вучыцца ў Мінскую вышэйшую партыйную школу. У суседнім квартале на вуліцы Карла Маркса жыў Рыгор. Бачыліся амаль штодня. Ён мне адкрываў вочы на шмат якія моманты ў беларускай літаратуры, яе трагічнай гісторыі. Распавядаў пра лёс Янкі Купалы, пра арышты, расстрэлы нацыянальных пісьменнікаў, іншых дзеячоў культуры. Яму я даводзіў пра таямніцы ў рэальнай савецкай гісторыі, у біяграфіях бальшавіцкіх лідараў, у эканамічнай палітыцы і сапраўдным становішчы ў краіне… У васьмідзясятыя гады на падобныя тэмы было накладзена табу.

Рыгор Семашкевіч ведаў пра мае літаратурныя памкненні. Прымусіў паказаць. Прозу, паэзію… Вершы сказаў схаваць, бо пасадзяць ці запіхнуць у Навінкі. А прозу ўхваліў і папрасіў перадаць яму машынапісны варыянт, а ён ужо аднясе ў часопіс: «Можна друкаваць». Проза была нестандартная, накшталт таго, што пазней Алесь Разанаў вытварыў у асобны жанр і назваў версэтамі, зномамі… Мяне ж вывелі на тую сцяжынку творчасць Прышвіна і, як ні дзіўна, стылёвы почырк Кузьмы Чорнага, майстра буйных жанраў.

Зрабіў машынапісны варыянт і… усё спаліў. Унутры сядзела сумненне, а яно цвяліла сумленне… Адчуваў праз гэтую ломку, што гавару не напоўніцу, больш замоўчваю. Няшчыра. Калі Рыгор знаёміў мяне ў двары свайго дома з Караткевічам, то, назваўшы аршанцам і яго земляком, дадаў: «Піша і кідае ў агонь». Уладзімір Сямёнавіч зарагатаў: «Гогаль! Спачатку трэба друкавацца, а тады ўжо паліць. Рукапісы гараць…» І засумаваў раптам, і шчыра развітаўся з намі на фразе «Не беражэм мы сябе, беларусы…»

«Маўчаў» да сярэдзіны 2003 года. Зноў мяне падштурхнуў Рыгор, Рыгор Барадулін. І доказ прывёў, што калі з дзяцінства нешта такое муляе, то, можа, Бог заклаў. Грэх не пісаць, не рэалізоўваць сваё чалавечае. А думкі пра тое, каму і навошта гэта трэба…

Апошнім часам паэзія, творчасць зрабілася неад'емнай жыццёвай патрэбай, роўнай самому жыццю, працы, спасціжэнню сябе, беларускага лёсу, свету, таямніцы быцця…

**– Праца над праектам «Першапачатак» доўжылася больш за год. Цікава, а што засталося па-за кадрам, як вялася здымачная праца і падрыхтоўка календара? Ці былі нейкія містычныя ці кур'ёзныя выпадкі падчас працы. У якім кірунку будзе далей развівацца праект?**

– За кадрам засталіся імгненні дакранання да выдатнай беларускай літаратуры. Да высокіх духам, талентам асоб, да іх эмоцый. Разам шукалі вобраз, вымалёўвалі яго не словам, а іншымі сродкамі.

Містычныя, кур'ёзныя выпадкі? Анатоль Вярцінскі (Жыцень) узгадаў раптам на жытнёвым полі пад Лагойскам, што першая ягоная кніжка паэзіі, называлася «Песня пра хлеб» і пабачыла свет у 1962 годзе, роўна паўвека таму. З аўтарскім аўтографам яна захоўваецца цяпер у мяне як адна з каштоўных рэліквій.

Не веру ў прымхі, але ў календары «Першапачатак» партрэтаў літаратараў атрымалася 13. «Чорная магія» разбурана, дзякуй Богу, дзяўчынкай Ёвай, якая ў кадры разам з Баем, шаноўным Генадзем Бураўкіным.

Пятнаццаты герой здымкаў – руды кот Рысік. Ён абсалютна арганічна дапоўніў вобраз Дамавіка – свайго гаспадара, народнага паэта Рыгора Барадуліна. Дзядзька Рыгор, праўда, даў жывёліне за яго брыдкія справы мянушку Усярысік…

Ці будзе працяг праекта? Не ведаю. Патрэбны вялікія сродкі. Але прыватны мой творчы інтарэс доўжыцца. Хочацца паступова зрабіць партрэты некаторых іншых пісьменнікаў. Не толькі знакамітых, але і маладых, якія распачынаюць заўтрашнюю беларускую літаратуру. Ёсць ужо некалькі фотаздымкаў.

Ведаеце, «маўчанне» у жыцці – цяжэйшае, чым у творчасці. Не выказвацца «за», не рабіць подлае, не пісаць на патрэбу, не даносіць, калі ад большасці патрабавалася якраз іншае… Апошняе было лягчэй і выгадней.

Такое маё апраўданне перад сабой, што тычыцца маўчання як пісьменніка, ды й не толькі. Вольны па выхаванні чалавек, перакананы, што жыць трэба смела. Усё магчыма, калі бярэшся зрабіць нешта патрэбнае грамадству, а не дзеля ўласнай карысці. Таму і браўся як кіраўнік за праекты рызыкоўныя, але бясспрэчныя ў сэнсе грамадзянскім, чалавечым, прафесійным. Зусім свядома, без усялякага дазволу (а яго проста быць не магло), напрыклад, у выдавецтве «Беларусь» мы выдалі ў 1991 годзе поўны кананічны тэкст «Бібліі» з навуковым каментарам. Праўда, па-расейску, бо беларускі пераклад з'явіўся пазней. Але ўпершыню ў Савецкім Саюзе за ўвесь савецкі час мы адзіныя ў дзяржаўным выдавецтве накладам 33 тысячы асобнікаў выдалі забароненую Кнігу кніг. Дагэтуль яе, не трымаўшы ў руках, пляжылі ўсімі сродкамі атэістычнай прапаганды. Прызнаюся: у газеце, у таварыстве «Веды» займаўся тым і я.

**– У 1989 годзе Вы сталі дырэктарам выдавецтва «Беларусь», і дзякуючы Вам пабачылі свет кнігі Аркадзя Смоліча, Юрыя Туронка, Вацлава Ластоўскага і шмат іншых смелых, для свайго часу, але такіх запатрабаваных выданняў. У 1995 сталі старшынёй праўлення выдавецтва і друкарні ЗАТ «Юніпак». Упершыню ў краіне Вы перавыдалі «Катэхізіс» Сымона Буднага, Біблію («Пяцікніжжа») у перакладзе на беларускую мову айца Уладзіслава Чарняўскага, «Гіпіку» Крыштофа Монвіда Дарагастайскага, па-расейску «Гаты» Заратуштры. Якім чынам Вы вызначаеце кнігі, вартыя для выдання? Якім павінен быць рукапіс, каб стаць кнігай? Раскажыце, калі ласка, нашым чытачам, што ў найбліжэйшых Вашых творчых ды выдавецкіх планах?**

– Як ствараюцца цікавыя кнігі? Трэба самому выдаўцу быць у авангардзе, мець шырокі досвед, супрацоўнічаць з разумнымі, сумленнымі, смелымі і таленавітымі, нацыянальна свядомымі людзьмі. Патрыётамі, а не «этнічнымі беларусамі» з рэзервацыі. Так называе Барадулін тых, хто свядомы толькі ўзорам на кашулі, якую апранае напаказ, а ў душы…

Амаль падрыхтаваны да друку насценны перакідны каляндар на 2015 год «Мудраслоўе беларусаў». Імкнуліся да выразнага раскрыцця нацыянальнай скарбонкі слова, паэтыкі, думкі. Праз тэкст, праз тэматычныя ілюстрацыі, якія адмыслова выканала цудоўная наша мастачка Юлія Рудзіцкая.

У бягучым годзе выйдзе ў свет апошні, чацвёрты том знакавага, лічу, для Беларусі выдання, падрыхтаванага сумесна з Міністэрствам замежных спраў, Беларускім дзяржаўным універсітэтам і Нацыянальным архівам – «Беларусь у палітыцы суседніх і заходніх дзяржаў (1914–1991 гг.)». У ім упершыню сабраныя ў пяці кнігах, кожная аб'ёмам больш за 40–50 уліковых выдавецкіх аркушаў, гісторыя пра нашу дзяржаву ў дакументах. Як нас дзялілі без нас, як цынічна ўсе дзяржавы наўкола ірвалі і тэрыторыю, і гонар, і дух маладой нацыі… Суседзі вялікія і малыя. У гэтых тамах шмат адкрыццяў, фактаў, лічбаў, падказак, засцярогаў, як для дзяржаўных палітыкаў, так і апазіцыйных. Адно шкада (грошы!) – малы наклад, 50 асобнікаў.

Кажуць, хочаш рассмяшыць Бога, раскажы пра свае планы. І ўсё ж прызнаюся: рыхтую да выдання яшчэ адну, а то і дзве свае кнігі: «А» і «Графіці». Гэта зноў паэзія.

Смяшыць Найвышняга – вельмі цікавая справа. Ды хто каго смяшыць – ці не Ён, нас стварыўшы? Адзін з маіх вершаў у выдадзенай летась кнізе так і называўся: «Боскія казытанкі».

## ■ «ДЗЕЯСЛОЎ» РАІЦЬ




**Брама: літаратурна-мастацкі альманах. Магілёў. – Мінск: Кнігазбор, 2013. – 288 с.**

Пабачыў свет першы нумар літаратурна-мастацкага альманаха «Брама». Гэта выданне Магілёўскага абласнога аддзялення ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў». Нагадаем, што свае альманахі маюць таксама Гродзенскае («Новы Замак») і Брэсцкае («Жырандоля») абласныя аддзяленні СБП. Гомельскія літаратары таксама рыхтуюць першы выпуск свайго выдання. У першым выпуску альманаха «Брама» змешчаныя паэзія, проза, драматургія, а таксама пераклады і літаратуразнаўчыя артыкулы, успаміны і эсэ, прысвечаныя жыццю і творчасці Сяргея Грахоўскага, Аляксея Пысіна, Міхася Ларчанкі, Рыгора Бярозкіна, Яўгеніі Янішчыц, Янкі Сіпакова. Усяго на старонках «Брамы» апублікаваныя матэрыялы 27 аўтараў.




**Вусцішны пакой. Зборнік містычнага апавядання. – Мінск: Кнігазбор, 2013. – 444 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; Бібліятэка часопіса «ПрайдзіСвет» «PostScriptum»).**

Гэтае выданне стала другой кнігай Бібліятэкі часопіса «ПрайдзіСвет» у межах серыі «Кнігарня пісьменніка» Бібліятэкі Саюза беларускіх пісьменнікаў. У кнігу ўвайшлі 29 вусцішных апавяданняў у перакладзе на беларускую з англійскай, французскай, нямецкай, партугальскай, украінскай, польскай і шведскай моваў. Для перакладу былі абраныя як класікі гатычнага жанру, такія як Эдгар Алан По і Жэрар дэ Нэрваль, так і, напрыклад, наш сучаснік Юрый Вінічук.

«Апавяданні з «Вусцішнага пакоя» маюць розную напругу – некаторыя нагнятаюць жах і здольныя змусіць кроў стынуць у жылах, а ў некаторых аўтары іранізуюць і кпяць з самой готыкі. Але адчуванне лёгкай іррэальнасці, хуткага прывіднага ценю, скразняку з тагасветнасці не пакіне да апошняй старонкі», – піша крытык Аляксандра Дорская.




**Вушацкі словазбор Рыгора Барадуліна. Укл. Н. Давыдзенка; прадм. У. Някляева. – Мінск: Кнігазбор, 2013. – 388 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; вып. 47).**

«Вушацкі словазбор» – спроба сабраць за адным бяседным сталом хоць крышачку непераўзыдзенага шматгалосся роднае мне зямлі, шматгалосся, якое, на жаль, пачынае глухнуць», – піша Рыгор Іванавіч ва ўступным слове да кнігі, прысвечанай «Светлае памяці мамы Куліны».

Нездарма на вокладцы змешчанае фота беларускай вёскі – Народны паэт склаў не проста слоўнік адметнай лексікі Вушаччыны, ён імкнуўся перадаць «паганскія карані і біблейскае неба», «чысціню бачання свету», галасы «мамы Куліны, крэўных і блізкіх».

## ■ КАНТАКТЫ

Пададзеныя ў бюлетэні кнігі
Вы можаце замовіць непасрэдна ў выдаўцоў
па наступных кантактах:

Кніжныя серыі:
**«Бібліятэчка «Дзеяслова»,**
**«Кнігарня пісьменніка»,**
**«Бібліятэка «Бацькаўшчыны»,**
e-mail: knihanosza@gmail.com,
тэл.: +375 17 200 70 27

**«Гарадзенская бібліятэка»,**
e-mail: dzmuchavec@gmail.com,
тэл.: +375 29 133 87 17

**ІП «Логвінаў»,**
e-mail: lohvinaupress@gmail.com,
тэл.: +375 29 667 47 57

**ПУП «Кнігазбор»,**
e-mail: bkniha@tut.by,
тэл.: +375 29 772 19 14

**ПУП «Радыёла-плюс»,**
e-mail: siuchykau@gmail.com,
тэл.: +375 44 561 05 28

**СТАА «Медысонт»,**
e-mail: medisont@gmail.com,
тэл.: +375 29 623 74 10

**Выдавецтва «Галіяфы»,**
e-mail: vish@bk.ru,
тэл.: +375 29 678 68 06

**Выдавецтва «Лімарыус»,**
e-mail: limarius@yandex.ru,
тэл.: +375 29 679 33 36

**ІП «Зміцер Колас»,**
e-mail: zkolas@gmail.com,
тэл.: +375 29 623 35 65






**Інфармацыйны бюлетэнь МГА «ЗБС «Бацькаўшчына» і ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў».**
Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.
Наклад 299 асобнікаў. № 23, 24.12.2013.
Адказны за нумар – Алесь Сачанка.
Адрас рэдакцыі: г. Мінск, вул. Кузьмы Чорнага, 31-906, 220012, тэл./факс: (+375 17) 200 70 27.
E-mail: knihanosza@gmail.com